«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info,
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

№ 54 (4614)

20 ліпеня 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Вялікі дзякуй усім, хто падтрымлівае «Народную Волю» ў гэты надзвычай цяжкі час.**
**Рэдакцыя.**

УРАДЖАЙ-2021

## Будзем з хлебам!



Ёсць чаму радавацца: на палетках Беларусі стаіць, здаецца, добрая збажына. Паводле аператыўнай інфармацыі Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, на 19 ліпеня сярэдняя ўраджайнасць пакуль складае па краіне 35 цэнтнераў з гектара. Пры гэтым на плошчах, засеяных ячменнымі, намалоты яшчэ больш высокія – 42,9 цэнтнера.

Трэба ўлічваць і тое, што з улікам спякотнага надвор'я ўборка ў першую чаргу вядзецца на падгарэлых участках. Калі механізатары перабазіруюцца на больш урадлівыя палі, ураджайнасць узрасце.

Так што будзем з хлебам!

ЗА КРАТАМІ

## БАЖ: пад вартай знаходзяцца 33 супрацоўнікі СМІ

Паводле інфармацыі Беларускай асацыяцыі журналістаў, за апошнія 10 дзён (па стане на 19 ліпеня) у рэдакцыях і кватэрах прадстаўнікоў СМІ адбыліся 63 ператрусы, з пачатку года – 107.

Пад вартай знаходзяцца 33 супрацоўнікі масмедыя (без адміністрацыйных работнікаў – 22).

Шматлікія затрыманні журналістаў адбыліся ў мінулую пятніцу, 16 ліпеня, – пад вартай апынуліся **Алег Груздзіловіч, Алесь Дашчынскі, Інеса Студзінская,** пазбаўленыя летась у кастрычніку акрэдытацыі МЗС журналісты беларускай службы Радыё Свабода, а таксама **Ігар Ільяш** і **Ганна Галота** з тэлеканала «Белсат».

За апошнія дні як мінімум дзве рэгіянальныя рэдакцыі пераехалі за мяжу.

Рэпрэсіі ў дачыненні НДА і недзяржаўных СМІ ўзмацніліся 8 ліпеня. У той дзень, у прыватнасці, былі затрыманы і дагэтуль знаходзяцца пад вартай галоўны рэдактар сайта Nn.by («Наша Ніва») **Ягор Марціновіч**, кіраўнік аддзела маркетынгу і рэкламы «НН» **Андрэй Скурко**, галоўны рэдактар часопіса «Наша гісторыя» і двух дзіцячых часопісаў, якія выдаюцца «НН», **Андрэй Дынько**. Усіх траіх праваабаронцы прызналі палітвязнямі. Акрамя таго, затрымалі бухгалтарку «НН» **Вольгу Раковіч**, але 16 ліпеня яе адпусцілі. 18 ліпеня рэдакцыя паведаміла, што Марціновічу і Скурко не выставілі абвінавачання паводле 342-га артыкула, аднак па заканчэнні 10 дзён не вызвалілі, а затрымалі на 72 гадзіны паводле новага артыкула (якога менавіта, не вядома). Інфармацыі пра Дынько на першую палову ўчарашняга дня не было.

ПАЗІЦЫЯ

## Савет бяспекі: уводзіць ваеннае становішча ў Беларусі пакуль што няма падстаў

Паводле выказвання намесніка дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі **Аляксандра Рахманава**, для ўвядзення ў краіне надзвычайнага або ваеннага становішча падстаў на гэты момант няма.

*«Змены ў закон аб надзвычайным, ваенным становішчы і Узброеных сілах – гэта чарговы, паслядоўны крок у частцы ўдасканалення нашага нацыянальнага заканадаўства,* – адзначыў чыноўнік у эфіры тэлеканала АНТ. – *Сутнасць гэтых крокаў – выпрацаваць механізмы, алгарытмы паводзін, каб заканадаўства было гатова абараніць нашых грамадзян ад любых рызык, выклікаў і пагроз, адкуль бы яны ні ішлі».*

Паводле слоў Аляксандра Рахманава, надзвычайнае і ваеннае становішча – гэта крайняя ступень рэакцыі на тую ці іншую надзвычайную сітуацыю. Аднак цяпер такіх абставін няма, і дзяржаўнымі органамі *«прымаюцца захады, каб яны не надышлі».*

*«Дзяржавай робіцца захады, каб не дапусціць развіцця таго ці іншага негатыўнага працэсу або з'яў у грамадстве, на нейкім аб'екце або сярод групы людзей да таго моманту, калі ён стане падставай для ўвядзення надзвычайнага або ваеннага становішча. Адштурхоўваючыся ад рэалій, паводле працэдуры прадугледжана ўнясенне указа прэзідэнта аб аб'яўленні рэжыму надзвычайнага становішча. Там будуць прапісаны толькі тыя абмежавальныя меры, якія рэальна дазволяць справіцца з негатыўнай сітуацыяй і аднавіць мір і парадак у грамадстве».*

КОМПЕТЕНТНОЕ МНЕНИЕ

## Павел МАЦУКЕВИЧ,

### старший аналитик Центра новых идей и бывший Временный Поверенный в Делах Беларуси в Швейцарии:



– Санкции уже реальность, но их влияние должно быть чувствительным для режима. Пока же они напоминают «ковровые бомбардировки», бьющие по всем, кроме тех, на кого действительно направлены.

Роль дипломатии – правильный диалог с режимом, который неизбежен. Для этого должна быть выработана дорожная карта взаимных шагов. Режим должен понимать цену упорства и цену уступок и шагов навстречу.

Главный смысл всех усилий сейчас – остановить каток репрессий, который идет в Беларуси, прекратить насилие и освободить из тюрем людей, которые страдают совершенно ни за что.

*(Из экспресс-комментария «Салідарнасці».)*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Дзе цяпер знаходзіцца Валянцін Жданко?

*Днямі былі навіны праператрусы і завоблачныя ганарары кіраўніка мінскага офіса Радыё Свабода Валянціна Жданко. А што з ім самім? Ён на волі ці ў ізалятары КДБ?*

**Васіль Пятровіч, Мінск.**

Як стала вядома «Народнай Волі», **Валянцін Жданко** не затрыманы, ён на волі. Паводле нашай інфармацыі, цяпер журналіст знаходзіцца за межамі Беларусі.

**Вера ВІР.**

ТЫМ ЧАСАМ

## Аляксандр Класкоўскі таксама не ў Беларусі

Вядомы публіцыст цяпер знаходзіцца ў адпачынку, а гэта значыць, што можа ехаць куды заўгодна.

Але сваё месцазнаходжанне ён не афішуе.

Як хутка аналітык вернецца ў краіну, таксама пакуль не вядома.

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

## Навошта ламаць дзверы?

*Як вядома, па Беларусі пракаціўся хваля вобыскаў. Да некаторых сілавікі не проста прыходзілі – яны ўзломвалі дзверы. Чаму нельга было папрасіць гаспадароў адчыніць кватэру ці офіс і спакойна правесці ўсе аперацыі?*

Вось толькі навіны апошніх дзён:

«Сілавікі ламаюць дзверы ў сядзібе БНФ».

«Старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта Алег Гулак напісаў на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку», што сілавікі прыйшлі ў офіс арганізацыі і ламаюць дзверы».

«У адным з мінскіх офісаў праваабаронцаў на вуліцы Мяржынскага адбываецца ператрус, выламалі дзверы».

«Дужыя хлопцы» выламалі дзверы ў мінскім офісе Радыё Свабода».

«У офсе БАЖ узламалі дзверы».

Скажыце, калі ласка, навошта псаваць маёмасць? Сапраўды, няўжо нельзя ключ у гаспадароў офіса?

Вось што мяркуе з гэтай нагоды юрыст, старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта **Алег Гулак.**

– *Я думаю, што на такія паводзіны сілавікоў ёсць дзве прычыны,* – тлумачыць Алег Гулак «Народнай Волі». – *Верагодна, пастаўлена задача максімальна запалохваць людзей. А калі застрашванне – то чым мени працэдур, тым лепш. І далей – ужо хто на што здатны. Не думаю, што тым жа супрацоўнікам ДФР самім прыемна выглядаць у такой сітуацыі нейкімі звярамі...*

*Другі момант – відавочна, што ў праваахоўнікаў ёсць нейкі расклад, калі і да каго прыйсці. Таму што дзясяткі ператрусаў ідуць амаль адначасова па ўсёй краіне – у розных гарадах, у розных арганізацыях, у розных кватэрах. І гэта яшчэ ж не ўсе распавядаюць па тых ці іншых прычынах, што да іх таксама наведаліся сілавікі! Але маючы такі шчыльны графік правядзення ператрусаў, вядома, калі кагосьці няма дома або ў офісе, а ператрус зрабіць трэба, то шукаць чалавека ў сілавікоў, верагодна, няма ні сіл, ні часу. Таму і ламаюць дзверы. Кампанія ёсць кампанія...*

*Але нават з пункту гледжання інтарэсаў той жа крымінальнай справы трэба было б выканаць усе працэдуры. Абшукаць, дапытаць, зафіксаваць. Таму што потым узнікне шмат пытанняў: на якой падставе ўсё гэта рабілі, як афармілі тое, што канфіскавалі, ўварваліся ў кватэру або офіс – а там нічога няма, а раптам нешта падкінулі? А што за панятыя былі? У асоб, у дачыненні да якіх робіцца ператрус, ёсць права запрасіць іншых панятых – гэта пытанне можна абмяркоўваць, можа быць выказаны недавер да тых панятых, што прыйшлі разам з тымі, хто праводзіць вобшук. Адным словам, шмат працэдур, якія парушаюцца, і далей што з усім гэтым рабіць? Пры нармальным працэсе гэта была б куча праблем. Але сёння сілавікі без праблем дазваляюць сабе такія паводзіны...*

**Марына КОКТЫШ.**

ЛІСТ НА ВОЛЮ

### Ягор МАРЦІНОВІЧ перадаў пасланне з-за кратаў:

## «Мы спрабавалі выстаяць падчас цунамі»

Учора было 12 дзён, як нашаніўцы знаходзяцца ў ізалятары на Акрэсціна ў невыносных умовах – без перадач ад сваякоў, якія супрацоўнікі не аддалі, без матрасаў і элементарных сродкаў гігіены. У нядзелю іх не адпусцілі, а затрымалі адразу ў другі раз, па новым артыкуле.

Сакамернікі, якія выйшлі на свабоду, умовы ў камерах апісваюць, як «канюшня». Ягор Марціновіч перадаў пасланне на волю.



*«Мы спрабавалі выстаяць падчас цунамі, але ў нас не атрымалася,* – кажа Ягор. – *На жаль, прастора для дзейнасці незалежных СМІ скарацілася да памеру камеры на Акрэсціна ці Валадарцы. Ні я, ні, думаю, мае арыштаваныя калегі не шкадуем, што засталіся ў Беларусі і працавалі ў Беларусі да апошняга.*

*Праца нацыянальнага брэнда павінна працягвацца хоць з намі, хоць без нас, таму што «Наша Ніва» – гэта не Марціновіч, Скурко, Дынько і Раковіч* (галоўны рэдактар выдання яшчэ не ведаў, што бухгалтара Вольгу Раковіч 16 ліпеня вызвалілі. – **НН**), *а высокапрафесійная журналісцкая каманда і сотні тысяч чытачоў. Як можна нам дапамагчы? Падпішыцеся на нашы старонкі ў сацыяльных сетках, падпішыцеся на наш тэлеграм-канал!*

*Чытайце па-беларуску, рэпосціце па-беларуску, размаўляйце па-беларуску! І калі такіх людзей будзе не сотні тысяч, а мільёны, то ўсе мы вызвалімся нашмат раней. Люблю Беларусь!»*

Ягор Марціновіч быў затрыманы 8 ліпеня, пры затрыманні збіты, у СК прыязджала «хуткая дапамога», паколькі Ягор атрымаў траўму галавы.

*("Салідарнасць")*

САЛІДАРНАСЦЬ

## У абарону журналіста Алеся Дашчынскага

Кіраўнік Радыё Свабода **Джэймі Флай** зрабіў заяву з нагоды інфармацыі пра затрыманне журналіста **Алеся Дашчынскага**, якога летась МЗС Беларусі пазбавіла акрэдытацыі як карэспандэнта Радыё Свабода.

*«Арышт Алеся Дашчынскага з РСЭ / РС – як і арышты яго калег Алега Груздзіловіча, Іны Студзінскай і многіх іншых незалежных беларускіх журналістаў – зяўляецца апошнім яркім сведчаннем адчаю Аляксандра Лукашэнкі. Гэтыя бесперапынныя напады на журналістаў, якія служаць народу Беларусі, не схаваюць праўду аб тым, што адбываецца ў краіне. Алесь і яго калегі павінны быць неадкладна вызваленыя».*

Журналіста Алеся Дашчынскага сілавікі затрымалі 16 ліпеня.

Супрацоўнікі Міністэрства ўнутраных спраў прыехалі па яго ў вясковы дом у Пастаўскім раёне, пасля прывезлі журналіста ў яго мінскую кватэру. Там адбыўся ператрус, які праводзілі чатыры супрацоўнікі, што прад'явілі пастанову ад 15 ліпеня. Але на якой падставе і кім яна санкцыянавана, у дакуменце не было пазначана, паведамілі родныя журналіста.

Ператрус цягнуўся амаль паўтары гадзіны, у Дашчынскага канфіскавалі ноўтбук, тэлефон, цвёрды дыск, флэшкі і банкаўскую картку. Калі журналіста выводзілі з кватэры пасля ператрусу, ён паспеў сказаць жонцы, што *«усё будзе нармальна».* Алесь Дашчынскі мяркавана знаходзіцца ў ізалятары на Акрэсціна.

ПОМНИМ...

# Павел ШЕРЕМЕТ: «Сила – в правде»

*Утром 20 июля 2016 года в Киеве убили одного из самых известных журналистов России, Украины и Беларуси **Павла Шеремета**: неизвестные взорвали автомобиль, в котором он находился, на углу улиц Богдана Хмельницкого и Ивана Франко.*

*Шеремет прославился в 1990-е как собственный корреспондент телеканала ОРТ (впоследствии Первого канала) в Беларуси; в конце десятилетия он вел «Время», главную информационную программу России. С 2000-го Шеремет снимал документальные фильмы, а в 2008-м ушел с Первого канала из-за цензуры. В последние пять лет журналист жил и работал в Украине – в газете «Украинская правда»; а также участвовал в деятельности своего сайта «Белорусский партизан».*

*Каким был Павел Шеремет, вспоминает спецкор «Медузы» **Катерина Гордеева**.*

Самое главное про Пашу – это его широченная улыбка. И хохот. Шеремет умел смеяться так громко, так беззаботно и заразительно, как, кажется, умеют смеяться только дети и те редкие взрослые, чья совесть чиста.

«Как ты, Паш?» – спросили мы с ребятами Шеремета почти сразу после того, как он ушел с Первого канала в 2008 году. *«Как сбитый летчик. Но совершенно счастливый: больше не нужно затыкать себе рот потому, что боишься не получить зарплату»*, – говорил он, улыбаясь.

Биография Павла Шеремета – это, безусловно, история целого поколения журналистов, потерявших работу в силу непреодолимых обстоятельств и верности убеждениям. В отличие от многих, Паша умел всякий раз, после каждого болезненного увольнения возрождаться и с утроенной силой ввязываться в новый проект. И делать свою работу так, как умеют только люди, бесконечно преданные профессии.

Этой самой профессии Павел Шеремет учил молодых людей в регионах, привлекал к преподаванию бывших коллег и конкурентов, преодолевая любой скепсис собственной непоколебимой убежденностью в том, что однажды все эти журналистские навыки будут нужны и востребованы: в России и Казахстане, в Беларуси и Украине.

Входить после него в аудиторию было испытанием. Лектор Павел Шеремет был как будто втрое больше, громче и убедительнее большого, громкого и убедительного журналиста Павла Шеремета. Студенты, кажется, готовы были слушать часами только его одного. Свои мастер-классы Паша часто заканчивал словами о том, что *«настоящий журналист – тот, который никому не удобен, и никто его не любит»*. В этот момент всегда казалось, что он говорит про себя.

Людей, равнодушных к Шеремету, и в профессии, и вокруг не было. Кто-то его обожал, кто-то ненавидел. Кто-то видел во всем, что делает Шеремет, корысть; кто-то понимал, что он искренен даже в самых своих глубоких заблуждениях.

Шеремет пришел в журналистику из экономики (его диплом, полученный в Белорусском государственном экономическом институте, посвящен офшорам, первое место работы – валютный отдел банка) и некоторое время работал экономическим консультантом. Потом втянулся в журналистику: корреспондент, главред газеты, спецкор Общественного российского телевидения. Его взрывной репортаж о том, что между Беларусью и Литвой фактически нет охраняемой границы, стоил ему свободы (три месяца тюрьмы) и депортации. Ни то ни другое Шеремета не сломало. О тюрьме он рассказывал спокойно и без надрыва; вынужденно оставленную родину очень любил и жалел. До последнего дня: лишенный в 2010 году белорусского гражданства (по формальным основаниям – у него был еще и российский паспорт), Шеремет писал о том, что происходит в Беларуси, на своем сайте «Белорусский партизан». Он часто так представлялся по телефону: *«Привет, это белорусский партизан Павко Шеремет. Есть дело»*. Всегда казалось, что у этого человека так много энергии и такие большие планы, что любое дело ему по плечу.



В любом его проекте хотелось хотя бы немного поучаствовать еще и потому, что Шеремет – большой журналист главного телеканала страны и Шереметбезработный, «поддерживающий штаны» фрилансом, были неотличимы – по манере общения, широте улыбки и неистребимой вере в то, что в финальной схватке добро одолеет зло.

Дважды – в Беларуси и в России – лишенный возможности работать по профессии, Паша часто говорил, что чувствует себя хорошо, свободно и безопасно в Киеве, куда вначале приезжал работать «вахтенным методом», а потом перебрался насовсем и даже выучил украинский язык.

*«Украина изменилась и будет меняться дальше»*, – написал он в одном из своих последних постов на «Фейсбуке». Чувствовалось: Шеремет снова очарован и снова на всех парусах несется куда-то в светлое будущее, поверив в молодую украинскую партию «Демократический альянс», работая в украинской газете, на местном радио и телевидении, основав очередную школу журналистики.

В последний раз на публике в России Паша появился в день похорон своего друга, оппозиционного политика Бориса Немцова – он вел панихиду. В эфире канала «Дождь» в тот день показывали последнюю телевизионную работу Шеремета в России – фильм, посвященный 50-летнему юбилею Немцова. В том, что они дружили, не было ничего удивительного: они ведь были действительно похожи.

После убийства Немцова Паша часто говорил, что оборвалась последняя нить, связывавшая его с Россией, с Москвой. Говорил даже, что больше не приедет, – но приезжал всё равно. Объяснял: *«Не могу приучить себя к мысли, что мне всё равно»*.

Павел Шеремет любил веселые компании, мог под настроение выпить и рассказать парочку острых анекдотов. И совершенно по-детски верил, что мир можно изменить к лучшему, если говорить правду.

*«Сила в правде»*, – говорил Шеремет…

МАНІТОРЫНГ

# Праваабаронцы склалі спіс 10 самых «старанлівых» суддзяў Мінска

Суддзі амаль штодня выносяць палітычныя прысуды ўдзельнікам мірных акцый пратэсту па крымінальных справах, а таксама працягваюць караць арыштамі і штрафамі па адміністрацыйных справах.

Праваабаронцы склалі спіс самых «старанлівых» суддзяў Мінска, якія ад пачатку леташняй выбарчай кампаніі асудзілі сотні беларусаў за выказванне сваёй грамадзянскай пазіцыі.

Найбольш вызначыўся суд Савецкага раёна Мінска. Ад леташняга мая паводле палітычных артыкулаў тут засудзілі амаль 1000 чалавек. У Фрунзенскім – 770, у Першамайскім – блізу 700. Найменей пакараных у Кастрычніцкім судзе – крыху больш за 400 чалавек.

Абсалютным «лідарам» рэйтынгу стаў суддзя Першамайскага раёна Мінска **Максім Трусевіч**. За мінулы год ён асудзіў больш за 250 чалавек: 182 пакараў агулам на 2785 дзён арышту, яшчэ 69 аштрафаваў на 2220 базавых велічыняў. Трапіў пад санкцыі Еўрасаюза з чацвёртага пакета.

На другім месцы «рэпрэсіўнага спісу» суддзя **Марына Фёдарава** з суда Савецкага раёна. Ад пачатку перадвыбарнай кампаніі асудзіла больш за 220 чалавек па «адміністрацыйках»: 149 пакарала арыштам на 2167 сутак, 75 аштрафавала на 1835 базавых велічыняў. Яе прозвішча значыцца ў трэцім санкцыйным пакеце.

Трэцяе месца займае суддзя Цэнтральнага раёна **Дзмітрый Карсюк**. На ягоным рахунку 138 арыштаваных на 2033 сутак, 58 атрымалі штрафы на 2240 базавых велічыняў. Вынес амаль 200 пастаноў. Часцей за ўсіх разглядае «палітычныя» справы без «дапрацоўкі».

Суддзя Савецкага раёна Мінска **Алена Жуковіч** за год асудзіла блізу дзвюх соцень чалавек: 128 фігурантаў арыштавала на 1708 сутак і 67 аштрафавала агулам на 2150 базавых велічыняў. Судзіць за ўсё: ад бел-чырвонабелага шаліка да ўскладання кветак.

Яшчэ адзін прадстаўнік Савецкага суда – **Сяргей Шаціла**. Асудзіў за мірныя акцыі пратэсту прыкладна 183 чалавекі: 118 арыштаваў на 1727 сутак і 65 аштрафаваў агулам на 2241 базавую велічыню. Трапіў у чацвёрты санкцыйны пакет.

На падставе рашэнняў суддзі Першамайскага раёна **Анастасіі Ляйкоўскай**, якая яшчэ не трапіла ні ў адзін санкцыйны спіс, за мінулы год арыштавалі мінімум 109 чалавек на 1290 дзён і 69 аштрафавалі на 1684 базавыя велічыні.

Наступны суддзя, які трапіў пад санкцыі, – **Аляксандр Воўк** з суда Савецкага раёна Мінска. За ім лічацца 172 рашэнні па палітычных справах. Ён арыштаваў не менш за 90 мінчан агулам на 1250 сутак і аштрафаваў 82 чалавекі на 2233 базавыя велічыні.

Самая актыўная ў рэпрэсіях суддзя Фрунзенскага раёна **Марыя Ярохіна**. Асудзіла мінімум 155 чалавек па «народных артыкулах», хоць актыўна пачала судзіць толькі з канца восені. Арыштавала мінімум 105 чалавек на 1587 сутак і аштрафавала не менш за паўсотні на 2322 базавыя велічыні.

Суддзя Ленінскага раёна **Таццяна Шоцік** з мая 2020 года асудзіла мінімум 144 чалавекі, з якіх 102 адправіла за краты на 1211 сутак і аштрафавала 42 фігуранты агулам на 1050 базавых велічыняў. Судзіла баскетбалістку Алену Леўчанку і журналістку TUT.BY Надзею Калініну.

Вядомая цягам апошняга дзесяцігоддзя суддзя Цэнтральнага раёна **Вікторыя Шабуня** за мінулы год арыштавала 89 чалавек на 1140 сутак і аштрафавала яшчэ 41 на 1275 базавых. Агулам з мая 2020 года пакарала больш за 130 чалавек. Суддзю ўключылі ў трэці пакет санкцый Еўрасаюза.

*АД РЭДАКЦЫІ*

**Спіс, складзены праваабаронцамі, можна працягваць. Нельга не звярнуць увагу на тое, каму кіраўнікі судоў даручылі разглядаць справы ўдзельнікаў масавых акцый. Некаторыя суддзі, можна сказаць, толькі-толькі надзелі мантыі, і юрыдычнага досведу ім яўна не хапае. Калі некалі стане вядома пра іх прафесійныя памылкі, то ці не адаб'ецца гэта на іх кар'еры?**

**І наогул узнікае пытанне: чаму судовыя ўлады кінулі «на перадавую» ў асноўным маладыя кадры?**

ЧУЛІ?

# Лідаркі аб'яднанняў «Бацькаўшчына» і «Будзьма беларусамі!» дзеля бяспекі выехалі з Беларусі

Аб сваім рашэнні кіраўніцы Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і каардынатарка грамадскай кампаніі «Будзьма беларусамі!» **Ніна Шыдлоўская** і **Алена Макоўская** паведамілі ў сацсетках:

*«Хочацца спадзявацца, што гэта ўсё ж хаця і раптоўная, але камандзіроўка, што гэта ўсё скончыцца і можна будзе вярнуцца ў Беларусь. Дзякуй усім, хто дапамагаў!»* – напісала Алена Макоўская.

Яна таксама выбачылася перад жыхарамі свайго дома за тое, што іх *«маленькі двор апынуўся раптоўна пад пільным кантролем»*.

*«Не думала, што давядзецца так зрабіць... Але давялося... Беларусь мая родная, чакай мяне! Я вярнуся. Дзякуй вялікі ўсім добрым людзям!»* – напісала Ніна Шыдлоўская.

14 ліпеня ў офісе «Бацькаўшчыны» адбыўсяператрус. Кіраўніца ЗБС Алена Макоўская і старшыня Рады Ніна Шыдлоўская – пад падпіскай аб невыдаванні.

Міжнароднае грамадскае аб'яднанне ЗБС «Бацькаўшчына» дзейнічае з 1990 года, аб'ядноўвае арганізацыі беларускай дыяспары больш як з 20 краін свету. Мэта – кансалідацыя беларусаў у краіне і за яе межамі на глебе павагі да гісторыі, культуры і мовы; аказанне дапамогі беларусам іншых краін у абароне іх правоў як нацыянальнай меншасці; заахвочванне навуковых даследаванняў у беларусазнаўстве, даследаванне культурных сувязяў беларусаў з іншымі народамі.

ЭМІГРАЦЫЯ

# Вадзім САРАНЧУКОЎ: «Дом – гэта не прапіска і не штамп у пашпарце...»

*Выконваючы абавязкі старшыні Партыі БНФ **Вадзім Саранчукоў** з'ехаў у Грузію. На жаль, не ў адпачынак. У эміграцыю.*

*Сам ён спадзяецца, што часовую.*

*«Ох, не такім я ўяўляў сабе свой першы візіт у Грузію*, – праінфармаваў пра свой ад'езд праз сацсеткі Саранчукоў. – *Роўна як не так бачыў візіты гасцей, хай і няваных, у маю вясковую хату. (Прывітанне, следчы Міраповіч, навошта шнурок ад званка абарваў?)*

*Бачыць Бог, я заўсёды імкнуўся да міру і ў палітыцы, і ў камунікацыі.*

*Ну што ж...»*

На лецішча да намесніка старшыні Партыі БНФ сілавікі наведаліся, відаць, пасля таго, як зрабілі вобшук у партыйным офісе. На дзвярах – паперкі з пячаткай дзяржаўнага ўпраўлення па Гродзенскай вобласці Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю Міністэрства ўнутраных спраў.

Калі пачалася серыя вобшукаў і арыштаў праваабаронцаў і журналістаў, Саранчукоў сказаў: *«Лічу любыя размовы пра «новую Канстытуцыю», народную ці якую-кольвек, ва ўмовах скажонага прававога поля і адсутнасці даверу да выбарчых механізмаў заўчаснымі і шкоднымі для нацыянальных інтарэсаў Бацькаўшчыны.*

*Яшчэ больш небяспечнымі лічу зараз думкі пра рэферэндум. Любы»*.

На пачатку ліпеня Вадзім Саранчукоў падтрымаў тых, хто вымушаны быў з'ехаць з Беларусі: *«Вельмі часта заўважаю, што людзі ўсімі сіламі хаваюць свой ад'езд... Гэтыя пасты ў сацсетках з фоткамі, допісы, поўныя пазітыву, звышактыўнасць...*

*Я разумею, што гэта такі эмацыйны ўнутраны надлом. Проста ведайце, што для мяне вы не сталі ні здраднікамі, ні баязліўцамі! Вы – гонар майго Краю. Захаваўшы Бацькаўшчыну ў сэрцы, вы дакладна знойдзеце дарогу да Дому. І не спыняйцеся на гэтай дарозе! Беларусі дакладна спатрэбіцца кожная светлая галава і адданае сэрца, дзе б яно ні білася!*

*Дом – гэта не прапіска і не штамп у пашпарце. Нам тут яшчэ ляшчыну збіраць, урадзіла ў гэтым годзе»*.

Марына ВІШНЕЎСКАЯ.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
20 ЛІПЕНЯ 2021 г.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Рано пташечка запела

Днями премьер Роман Головченко похвалился. В частности, он заявил: *«Вопреки всем алармистам, которые в очередной раз нам предрекали падение и разрушение, мы очень хорошо прирастаем по экспорту – выросли почти на треть за пять месяцев, это 4 миллиарда долларов дополнительно получили. Платежный баланс страны – самый лучший за последние десять лет».*

Действительно, по данным Белстата, за январь–май экспорт товаров составил 14.543,3 миллиона долларов и вырос к аналогичному периоду 2020 года на 138,9%. Причем средние цены экспорта увеличились на 11,4%. Экспорт услуг, основу которых составляют транспортные и коммуникационно-информационные услуги, достиг 3906,4 миллиона долларов, или увеличился на 114,3%. Как и ранее, отрицательное сальдо по внешнему обороту товаров было перекрыто положительным сальдо по услугам, и общее сальдо по внешней торговле товарами и услугами составило +1247,9 миллиона долларов, увеличившись против показателя за январь–май прошлого года более чем в два раза. Более чем в два раза возрос экспорт Беларуси в страны Евросоюза, которые, как известно, вводят секторальные и иные санкции против руководства страны.

Аналитики подмечают, что высокие приростные показатели обязаны низкой сравнительной базе первого квартала 2020 года, когда белорусские НПЗ были недозагружены нефтяным сырьем. Что в начале прошлого года внешний спрос на белорусский экспорт был пониженным вследствие влияния на экономику стран-партнеров коронавирусной эпидемии, а в текущем году этот спрос понемногу восстанавливается. И, наконец, что секторальные санкции страны Запада начали вводить в конце июня и поэтому радостная картина развития белорусской экономики вскоре потускнеет. Так или иначе, но пока цифры говорят сами за себя.

Да и сами секторальные санкции носят избирательный характер. Так, их ограничения не затронули экспорт собственно калийных удобрений, и порты балтийских стран, через которые идут основные их экспортные потоки, в частности терминалы литовской Клайпеды, продолжают перевалку и отгрузку хлоркалия. Прибалты, вероятно, не хотят терять соответствующие бюджетные поступления или ждут компенсации от ЕС. Тем более что ЕС дает возможность исполнения контрактов, заключенных до 25 июня. Однако реальная серьезная опасность таится в том, что к санкциям Евросоюза присоединятся США, реакция которых всегда более резкая, чем у европейцев. Прежде всего, «Беларуськалий» не сможет работать с долларовыми счетами, а если будут введены так называемые вторичные санкции, которые наказывают любых партнеров, работающих с подсанкционным предприятием, то экспорт калийных удобрений, как считают отдельные эксперты, может вовсе сойти на нет.

В 2020 году из всего товарного экспорта в размере 20,04 миллиарда долларов экспорт продуктов нефтепереработки (включая кокс) составил 3,1 миллиарда, то есть порядка 10%. В связи с текущим удорожанием мировых цен на нефть, экспорт нефтепродуктов в 2021 году мог бы быть значительно больше, если бы Евросоюз не ввел запрет на импорт из Беларуси нефтепродуктов по всем товарным таможенным кодам. В том же 2020 году валютная выручка от проданных нефтепродуктов в страны ЕС достигла 1,4 миллиарда долларов. Особенно повысились мировые цены на пиломатериалы и продукцию деревообработки. Поэтому сегодня буквально лес рубят – щепки летят.

На втором месте по покупке белорусских нефтепродуктов после ЕС стоит Украина. Если включить туда битум и асфальт, которые она закупает много, то выйдут те же 1,4 миллиарда долларов. Но Украина пока не присоединилась к европейским санкциям. Потери для ее рынка будут слишком ощутимы. Если белорусские НПЗ будут меньше закупать нефтяного сырья за валюту, то чистые валютные потери Беларуси, естественно, тоже уменьшаться. От прекращения экспорта нефтепродуктов в страны ЕС они оцениваются в 500 миллионов долларов, но если к санкциям все-таки присоединится Украина, то потери удвоятся (1 миллиард долларов).

Но это всё пока главным образом на бумаге. Пока же действует принцип: только бизнес и ничего личного. Многим партнерам Беларуси по экспортно-импортным операциям рвать их – себе дороже. На это и рассчитывает белорусское правительство. Положительное сальдо внешней торговли позволяет поддерживать валютный курс белорусского рубля, не допуская его обвальной девальвации, несмотря на непрерывное изъятие населением валютных депозитов в течение 18 последних месяцев подряд. За это время из банковской системы вынесено более 2 миллиардов долларов.

Аналитики подметили, что Белстат перестал публиковать подробную детализацию статистики внешней торговли. К примеру, отсутствуют на сегодня текущие данные по экспорту нефтепродуктов, калийных удобрений, машин, оборудования и механизмов, средств наземного транспорта, то есть данные по наиболее доходным статьям белорусского экспорта. То ли это технические причины, то ли потому, что на эти статьи как раз и будут влиять по нарастающей западные секторальные санкции. В этой связи на ум приходит тупой американский юмор, когда человек выбросился с сорокового этажа небоскреба и, пролетая мимо двадцатого этажа, подумал: пока ничего, оказывается, страшного.

В нашем случае хочется вспомнить другое известное выражение: рано пташечка запела…

СІТУАЦЫЯ

# «Рабочыя самі павінны патрабаваць годных умоў працы…»

*Спякотнае надвор'е, якое трымалася апошнім часам (слупок тэрмометра падымаўся да 35 градусаў і нават вышэй), падабалася далёка не ўсім. І не ўсе яго добра перанеслі. А ўявіце сабе, як у такія дні даводзілася рабочым ў гарачых цэхах!*

Напрыклад, на мінулым тыдні працоўныя Мінскага трактарнага завода распавялі ў інтэрнэце, што ў спякотныя дні сітуацыя на прадпрыемстве была на мяжы фолу. З-за гэтага нават не выконвалася сутачная норма.

*«З-за высокай тэмпературы (а ў цэхах яна як быццам дасягала 35–40 градусаў) абсталяванне і людзі не вытрымліваюць,* – паведамілі рабочыя. – *У выніку многія ў такіх умовах проста не выконваюць план».*

«Народная Воля» звярнулася да выконваючага абавязкі памочніка генеральнага дырэктара па сацыяльным развіцці і ідэалагічнай працы **Уладзіміра ПІСКАЖАВА**, каб пагутарыць на тэму ўмоў працы на прадпрыемстве, але той адмовіўся даваць нейкія каментары па тэлефоне.

– *У інтэрнэце шмат што пішуць,* – коратка дадаў Уладзімір Уладзіміравіч. – *І гэта права кожнага – верыць альбо не верыць.*

Некалькі дзён я спрабаваў злавіць і старшыню прафсаюзнай арганізацыі ААТ «МТЗ» **Станіслава ШЫМАНСКАГА**, але ў прыёмнай сакратарка толькі ўказвала арыенціровачнае месцазнаходжанне свайго начальніка: *«у гарадзе на нарадзе», «у кіраўніцтва», «на тэрыторыі завода».*

Будзем спадзявацца, што прафсаюзны чыноўнік, у якога ў кабінеце, мабыць, ёсць кандыцыянер і прахалода, на самай справе штодзень бегае па заводскіх цэхах і пытаецца ў рабочых пра іх адчуванне. А пасля ставіць вострыя пытанні перад кіраўніцтвам прадпрыемства.

Дарэчы, на трактарным заводзе ёсць і суполка Свабоднага прафсаюза металістаў. Ці могуць незалежныя прафсаюзы абараніць правы рабочых на годныя ўмовы працы?

– Калі ў вытворчым цэху тэмпература перавышае 33 градусы, то рабочы мае права адмовіцца ад працы, – кажа старшыня Свабоднага прафсаюза металістаў **Аляксандр БУХВОСТАЎ**. – Ёсць жа санітарна-тэхнічныя нормы, якія запісаны ў атэстацыі працоўнага месца. Там усё распісана па пунктах, і рабочыя самі павінны прымаць рашэнне. Яны, як я ужо казаў, могуць адмовіцца ад працы, калі не створаны адпаведныя ўмовы, якія, паўтаруся, замацаваны дакументальна.

Мы такія рэкамендацыі даём працоўным, і сябры нашых пярвічных арганізацый на прадпрыемствах тлумачаць людзям, як можна сябе паводзіць у той ці іншай сітуацыі. І калі не створаны прымальныя ўмовы працы, то трэба ісці на перамовы з кіраўніцтвам і цэха, і прадпрыемства.

**– Вам вядомы факты звароту рабочых з-за неспрыяльных умоў у цэхах?**

– Наколькі вядома, менавіта на МТЗ рабочыя ставілі такія пытанні перад кіраўніцтвам. Як быццам шукаюць нейкае кампраміснае рашэнне.

Але незалежныя прафсаюзы не могуць нейкім сваім цыркулярам вырашыць гэтую праблему. Мы толькі можам падказаць рабочаму, як ён можа законным метадам дзейнічаць. І людзі павінны гэтым правам карыстацца. Паўтаруся: рабочыя самі павінны не маўчаць і патрабаваць годных ўмоў працы.

А ў нашага незалежнага прафсаюза няма права накіраваць на той жа Мінскі трактарны завод тэхнічную інспекцыю, каб праверыць умовы працы, бо нам гэта не дазваляюць зрабіць тыя заканадаўчыя акты, што прыняты. Наша пярвічная арганізацыя на МТЗ не зарэгістравана, а таму нам кажуць: вы не маеце права знаходзіцца на тэрыторыі завода. А калі зарэгіструем пярвічку, то стануць вядомы прозвішчы людзей, і яны могуць патрапіць пад звальненне. Замкнёнае кола.

Зараз, наколькі вядома, на многіх прадпрыемствах наогул кадравы голад, хутка не будзе каму працаваць. І мы пра гэта папярэджвалі. Нават у сакавіку пісалі ліст прэм'ер-міністру, у якім указалі: калі не адновіце на працы звольненых спецыялістаў, то гэта адаб'ецца і на аб'ёмах вытворчасці, і на якасці прадукцыі.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КОНТРАБАНДА

# Литовцы показали, как устроен тайник для сигарет в белорусской фуре

*Таможенники соседней страны достали из тайников одного грузовика около полумиллиона пачек.*

Литовские таможенники всякий раз смотрят на пиломатериалы из Беларуси как на ребус. На этот раз, разобрав «конструктор», снова нашли партию сигарет, ехавших в Евросоюз, – около полумиллиона пачек. Но это не окончательная цифра, написал в конце минувшей недели сайт *onliner.by.*

Досмотр въезжавшего из Беларуси грузовика проводился еще 12 июля на посту «Райгардас» (с нашей стороны – «Привалка»). За рулем находился гражданин Беларуси, он сообщил, что везет транзитом в Польшу дерево. При визуальном осмотре возникли подозрения – говорят, заметили, что звук не тот.

Уши не подвели: внутри оказались ниши с белорусскими сигаретами Minsk Capital MS. За четыре дня, разобрав «шкатулку», достали 500 тысяч пачек. Всего в фуре может поместиться сигарет почти на 2 миллиона евро – но это если набить машину под завязку.

Водителя отпустили под подписку, взяв денежный залог.








ЭМІГРАЦЫЯ

# Рэдакцыя барысаўскага сайта Ex-press.by у поўным складзе пакінула Беларусь

*Раней за мяжу дзеля бяспекі выехалі журналісты БелаПАН, «Еўрарадыё», TUT.BY і іншых беларускіх СМІ.*

Пра вымушаную эміграцыю супрацоўнікаў Ex-press.by рэдакцыя барысаўскага партала паведаміла ў сваім тэлеграм-канале.

*«Дарагія сябры! Паведамляем вам, што рэдакцыя Ex-press.by у поўным складзе вымушана была выехаць з краіны дзеля бяспекі і захавання праекта. Мы працягваем працу і вельмі спадзяёмся на вашу дапамогу. Дасылайце фота, відэа, вашы пытанні і разважанні праз telegram-бот. Гэта ананімна і бяспечна для вас. Мы на сувязі»,* – звярнулася да чытачоў рэдакцыя Ex-press.by.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Руль управа, руль улева... На дарогу выйшла дрэва

19-гадовы жыхар Валожынскага раёна выйграў па латарэі вялікую суму грошай і набыў аўтамабіль. Не маючы правоў, будучы нецвярозым, праз некалькі дзён ён уехаў у дрэва. Сяброўка, якая сядзела ў салоне, у цяжкім стане трапіла ў бальніцу.

Нехта рупіцца да поту,
Горбіць спіну дзень пры дні,
А багацця за работу
У яго няма ані.
Так і цягне ён да смерці
Непасільны, цяжкі воз.
І яму ні Бог, ні чэрці
Выпраўляць не хочуць лёс.
А камусьці і не трэба
Увіхацца надта: Бог
Пасылае «манну з неба»,
Так сказаць, кладзе ля ног,
Што душу, вядома, грэе,
І яна цвіце, як сад.
Маладзён па латарэі
Выйграў грошай вельмі шмат.
І так званая халява
Затуманіла мазгі:
Бясклапотнай стане ява –
Календар цяпер другі!
Як патраціць тыя грошы?
Ён не жмінда, не куркуль:
Легкавік купіў харошы,
Хоць не меў правоў пакуль.
Ды і навыкаў таксама
У яго, вядома, – нуль.
Вось і здарылася драма,
Як усеўся ён за руль,
Каб правесці трэніроўку.
Ганарыўся маладзён,
І таму сваю сяброўку
Пасадзіў к сабе ў салон,
Каб яна яго натхніла.
– З вецяркам я пракачу!
Не зважай, што ад «чарніла»
Памуцілася ўвачу.
Не закралася трывога
Спадарожніцы ў душу.
Не прамой была дарога,
Не падобнай на шашу,
А была амаль што конка,
Дзе абапал многа дрэў.
Рагаталі разам звонка,
За рулём шафёр дурэў –
Руль управа, руль улева:
Я, маўляў, ліхач будзь-будзь!
І машына – бац! – у дрэва...
Знікла ў клёпках каламуць,
Як убачыў, што дзяўчыне
Ледзь, прабачце, не хана.
Дактароў у той машыне
Дачакалася яна.
Хоць зыход не самы горшы
(Карта ўсё-ткі легла ў масць),
Толькі выйграныя грошы
Ёй на лекі ён аддасць...

***

Ёсць выслоўе залатое –
Хай запомніць халтама:
Не заўжды карысна тое,
Што даецца задарма.

**Багацце і прыгажосць**

З далёкіх пор
Крылаты выраз ёсць:
«Жаночае багацце –
Прыгажосць».
І з тым, бадай,
Згадзіцца мы павінны.
Ну а багацце –
Прыгажосць мужчыны...

**Чаму завялі кветкі**

Як муж пашкадаваў рублёў
І не купіў пярсцёнка,
Пачуў ён многа крыўдных слоў,
І прыгадала жонка:
– Яшчэ з юначае пары
Ты скнара, жмінда рэдкі,
Бо на спатканнях мне дарыў
Завяленыя кветкі!
Ад мужа быў такі адказ
(Нарэшце ўставіў слова):
– А на спатканне ты хоць раз
Прыйшла своечасова?..

**Хто напраўду багаты?**

Не той багаты, хто заўжды
Трымае грошы на кантролі,
А той, хто мае грошы, ды
Пра іх не згадвае ніколі...

ЧЕЛОВЕК ЧЕСТИ

### Валерий КОВАЛЕЦ, бывший заместитель Давид-Городокского горисполкома:

# «Я сохранил уважение к себе»

*В марте заместитель председателя Давид-Городокского горисполкома Столинского района **Валерий Ковалец** был вынужден уйти в отставку после того, как отказался подписать открытое письмо государственных профсоюзов против санкций. Бывший чиновник подтвердил эту информацию в интервью 3beltv.eu и согласился рассказать о некоторых обстоятельствах.*



**– Что стало причиной вашего увольнения?**

– В конце января – начале февраля из района пришла информация, что членам профсоюза нужно подписать открытое обращение против введения санкций в отношении белорусских предприятий. Я сказал, что такой вопрос нужно как минимум обсуждать. Если это приказ как госслужащему, я еще могу подписать, всё же существует дисциплина. Но как член профсоюза я подписывать не обязан. Я не согласен с тем, что государственный профсоюз почти полностью зависит от мнения администрации. Это неправильно.

Поскольку я не стал автоматически подписывать, то собрали профсоюзное собрание горисполкома. Зачитали это обращение. Было пять человек: четыре подписали, а я воздержался.

**– Что было дальше?**

– Председатель исполкома сразу предупредил, что мое решение будет воспринято крайне негативно. Думаю, все решалось на районном уровне. Через некоторое время председатель получил уведомление, что со мной не продлят контракт. Чтобы вы понимали: у меня стаж на государственной службе – 28 лет. 21 год я работал заместителем председателя Давид-Городокского горисполкома. Чтобы сохранить хотя бы некоторые льготы, я решил сам уйти в отставку. 18 марта 2021 года был мой последний рабочий день.

**– Насколько я понимаю, вам три года оставалось до выхода на пенсию...**

– Да. Поскольку я ушел раньше пенсионного возраста, я получаю сейчас только половину пенсии – 325 рублей. Моя зарплата была где-то в 3,5 раза больше.

### «Первые лет десять Лукашенко спасал страну»

**– Когда вы пришли на работу в горисполком?**

– После местных выборов 1999 года. Тогда я вместе с несколькими бывшими коллегами по электромеханическому заводу решил баллотироваться в городской Совет и организовать наблюдение. В тот год выборы проводились одновременно в городской, районный и областной Советы. И были безальтернативными, то есть на всех уровнях баллотировался только один кандидат.

В итоге я был избран в городской Совет в одном из округов. Большинство депутатов были связаны с заводом, так как электромеханический завод в свое время был градообразующим предприятием. Председателем горисполкома стал бывший директор завода, и он пригласил меня в заместители.

**– До того, в 1990-е, вы были заместителем директора Давид-Городокского электромеханического завода?**

– Да. Я считаю, что это самый успешный период моей карьеры. В то время были серьезные проблемы с закупкой сырья, в основном из-за разрыва хозяйственных связей после распада СССР. Получит ли завод сырье, зависело фактически от меня. Приходилось лично ездить по России, договариваться с руководством заводов, ночевать в машине, прятаться от рэкетиров... много чего было. Но мы обеспечили завод сырьем и довольно стабильно работали, даже демонстрировали рост.

**– Как вы восприняли победу Лукашенко на выборах 1994 года?**

– Как и большинство населения, положительно. Я считаю, что первые лет десять Лукашенко спасал страну. Он, на мой взгляд, очень сильный антикризисный управляющий, что в условиях гиперинфляции, в условиях разрыва экономических связей после распада СССР было очень важно. Помню, как он однажды заставил банки дать кредиты предприятиям, чтобы те выплатили зарплаты рабочим. Вообще было много волевых, очень жестких, но правильных на тот момент решений. Это и обеспечивало ему сначала поддержку большинства белорусов.

**– В какой момент ваше отношение к политике Лукашенко начало меняться?**

– Трудный вопрос... Скажу так: поворотным пунктом для меня стали события декабря 2010 года.

**– Вы имеете в виду жесткий разгон Площади?**

– Да. Тогда, если я не ошибаюсь, собрались в Минске около 50 тысяч человек. Я, может, и не разделяю их точку зрения, но люди должны иметь право ее высказать.

**– На выборах 2010 года вы были председателем избирательной комиссии?**

– Был. Насколько я помню, тогда у нас на участке Лукашенко получил около 75 процентов.

**– Это были реальные цифры?**

– Однозначно. За него тогда проголосовало большинство в городе. И в 2015-м, думаю, тоже. Хотя в 2015 году я уже не входил в избирательную комиссию.

### «Всю информацию старался получать из TUT.BY»

**– Почему после 2010 года вас перестали включать в избирательные комиссии?**

– Вероятно, возникли вопросы по моей лояльности. Меня перестали включать в избиркомы, так как я всегда подавал те результаты, которые действительно были. Я всегда был за то, чтобы в стране соблюдались законы. Я их выполнял и требовал этого от других членов комиссии. Я вел разговоры с ними о недопустимости нарушения избирательного законодательства.

Здесь надо отдать должное принципиальной позиции членов комиссии: в 2020 году из четырех городских избирательных участков на трех он (*Лукашенко. – **Прим.belsat.eu***) получил меньше голосов (*чем Тихановская. – **Прим. belsat.eu***). На четвертом участке у него было более 50%.

**– Чем на уровне организации и общей атмосферы отличалась избирательная кампания 2020 года в Давид-Городке от всех предыдущих?**

– Мне кажется, что на уровне города существенных различий не было. Стандартная схема подбора членов комиссии, стандартная схема по делу наблюдателей. Всё то же самое. А что происходило в разрезе всей страны, вы сами прекрасно знаете.

**– После выборов страну захлестнула волна массовых протестов. Что происходило в Давид-Городке в тот период?**

– В Давид-Городке несколько недель подряд в выходные человек 40–50 выходили с белыми цветами и лентами. Разгонов, задержаний не было. Но информацию о тех, кто выходил, соответствующие структуры, конечно, собирали.

**– Между тем все читали новости и знали о жестоких разгонах людей по всей стране. Как на это реагировали работники горисполкома?**

– Молчаливо. То есть все чувствуют, что в стране что-то происходит, видно, что люди обеспокоены. Но в коллективе это старались не обсуждать. Люди понимали свою зависимость.

**– А как реагировали лично вы?**

– Скажу так: я всю информацию старался получать из TUT.BY, и у меня не было оснований сомневаться в том, что они пишут. Безусловно, больно, когда в стране происходит такое, когда в обществе наблюдается серьезный раскол и не видно стремления этот раскол преодолеть. Конечно, невозможно быть равнодушным к этому. Волнуешься за детей, за внуков. Волнуешься за их будущее.

Я свою позицию внутри коллектива немножко высказывал. Я оппонировал председателю горисполкома, озвучивал свое мнение по поводу событий в стране. И я говорил, что нам нужно уважать позицию членов комиссии, которые честно провели выборы. В той ситуации, в которой они были, это было непросто.

### «Я не могу читать о том, как разрушаются судьбы людей»

**– Но почему именно история с открытым обращением профсоюза стала для вас переломным моментом? Вы же понимали, что отказ подписать обращение приведет к потере должности.**

– В жизни наступает такой момент, когда человек понимает, что пришло время уходить. У меня было определенное ощущение, что я стал неудобной фигурой. Я понимал, что ситуация будет развиваться в негативном ключе, что на государственной службе будет разрешено иметь только одно мнение. А я человек эмоциональный. Я не могу читать о том, как разрушаются судьбы людей в связи с событиями 2020 года, не могу видеть, как свидетелями на судах выступают засекреченные личности... Мне всё это сложно воспринимать. Поэтому я решил уйти от этого, потому что иначе просто сгорю, не выдержу этой атмосферы.

**– Не жалеете?**

– Нет. Я очень не хотел, чтобы меня – как работника, как госслужащего – воспринимали как пустое место, как человека без позиции и мнения, который выполняет любую команду. Оставив государственную службу, я сохранил уважение к себе. Я не сделал ничего, что не позволило бы мне спокойно смотреть людям в глаза.

Кстати, я ушел из коллектива, оставшись со всеми в хороших отношениях. За последнюю рабочую неделю старался максимально передать свой опыт человеку, который приходил на мое место. После моего ухода в течение двух месяцев действующий заместитель председателя горисполкома периодически звонил мне с трудовыми вопросами, и я всегда старался дать максимально подробную консультацию.

*(1reg.by)*

АФІЦЫЙНА

# Урад змяніў заснавальніка санаторыя «Беларусь» у Друскінінкаі




Урад Беларусі перадаў функцыі заснавальніка санаторыя «Беларусь» у літоўскім Друскінінкаі іншай дзяржарганізацыі. Раней ён знаходзіўся ў падпарадкаванні Галоўнага гаспадарчага ўпраўлення Кіраўніцтва справамі прэзідэнта, у дачыненні да якога напрыканцы мінулага года былі ўведзеныя санкцыі ЕС. У выніку рахункі санаторыя былі заблакіраваны.

На Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале апублікавана Пастанова Саўміна №398 ад 13 ліпеня. Дакументам прадугледжаны змены ў статут Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва. Цэнтр атрымаў права адкрываць рахункі ў замежнай валюце.

Таксама ў пастанове прапісана, што цэнтр выконвае функцыі «заснавальніка ў дачыненні да грамадскай установы «Санаторый «Беларусь», Літоўская Рэспубліка, г.Друскінінкай, вул.Майроніё, 2». Ён жа павінен забяспечваць агульнае кіраўніцтва санаторыем.

Цэнтр атрымаў права прымаць ва ўстаноўленым парадку рашэнні аб рэарганізацыі і ліквідацыі санаторыя «Беларусь». Дырэктар цэнтра цяпер будзе прызначаць кіраўніка санаторыя і ўзгадняць яго намеснікаў, зацвярджаць статут санаторыя.

Праз блакіраванне рахункаў літоўскім Swedebank установа сутыкнулася з праблемамі з выплатай заробкаў. У студзені санаторый падаў у суд на Swedbank. Грамадзянская справа разглядаецца ў Вільнюскім участковым судзе. Таксама літоўская пракуратура правяла расследаванне па заяве мэра Друскінінкая і прыйшла да высновы, што рахункі санаторыя «Беларусь» былі заблакіраваныя на законных падставах. 1 ліпеня рахункі «Беларусі» былі разблакіраваны.

